# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№2 (201)
люты 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Беларускамоўны: грамадская кампанія да перапісу насельніцтва 2019

Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову роднай, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы.

Старонка 2

### "Рэальна, каб 70% назвалі роднай мовай беларускую"

Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў, старшыня Таварыства беларускай мовы і сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Анісім разважае пра магчымыя вынікі перапісу 2019 года.

Старонка 5

### Першыя кнігі на падляшскай мове

Гэта кніга прозы Галіны Максімюк "Бельск, Кнаразы, Плёскі і іншыя вёскі" і паэтычны зборнік Зоі Сачко "Пока".

Старонка 7.

### Першыя медалі да стагоддзя БНР

Былі ўручаны 18 лютага ў Варшаве.

Старонка 2.



# ЗІНАІДА КЛЫГА АТРЫМАЛА ОРДЭН БЕЛАЙ ЗОРКІ З РУК ПРЭЗІДЭНТА ЭСТОНІІ

22 лютага старшыня Беларуска-Эстонскага Згуртавання Іда-Вірумаа "БЭЗ" Зінаіда Клыга атрымала Ордэн Белай зоркі з рук прэзідэнта Эстонскай Рэспублікі Керсці Кальюлайд. "Бацькаўшчына" звязалася са спадарыняй Зінаідай, каб асабіста павіншаваць сябра Рады і даведацца, як прайшла цырымонія.

– Прэзідэнцкі прыём праходзіў у Лауласмаа, за 35 кіламетраў ад Таліна, у новым, толькі ў кастрычніку пабудаваным Цэнтры кампазітара Арво Пярта. Усе запрошаныя змясціліся ва ўтульнай канцэртнай залі, карэспандэнты радыё і тэлебачання тры гадзіны запісвалі ўсё для навін і для гісторыі.

Безумоўна, я моцна хвалявалася, але ўсё прайшло вельмі ўрачыста і ў той жа час карэктна і сціпла. Як звычайна на сур'ёзныя імпрэзы, я апранула свой святочны стылізаваны строй у беларускіх колерах, і гэта дапамагала мне быць самой сабой, адчуваць сябе проста і годна ў той час, калі мне ўручалі высокую ўзнагароду. Мне было вельмі прыемна ўсведамляць, што на дзяржаўным узроўні адзначаны праца "БЭЗа" і мая праца, якая звязаная, з аднаго боку, з Беларуссю, і з другога – з праблемамі шматнацыянальнага рэгіёна Іда-Вірумаа і ўсёй Эстоніі. А яшчэ, што побач са мной так многа людзей, якія радуюцца за мяне, за нас.

**– Ці рыхтуецеся да 30-гадовага юбілею БЭЗа, да якога засталіся лічаныя дні?**

– Апошнім часам мы мелі вельмі складаныя абставіны – страцілі магчымасць надалей арандаваць памяшканне, пакой, у якім доўгі час збіраліся сябры БЭЗа і дзе захоўваліся нашы рэчы. Мы шмат часу шукалі новае месца для нашай "беларускай хаткі", і толькі 15 лютага пераехалі ў новы пакой. Часу, каб давесці ўсё да ладу і мець магчымасць годна прымаць гасцей, не хапае. Але мы параіліся і вырашылі ўсё ж зладзіць 24 сакавіка невялічкую імпрэзу – "адным стрэлам" адзначыць і ўлазіны, і ўзнагароду, і 30-годдзе Беларуска-эстонскага згуртавання.

Ёсць і іншыя задумы. Гэты год у рэспубліцы праходзіць пад эгідай 150-гадовага юбілею першага ўсеэстонскага спеўнага свята, і мы вырашылі, што будзе дарэчна ў чацвёрты раз правесці і наш фестываль "Родныя напевы" (першы такі фестываль мы зладзілі ў 2004-м годзе, папярэдні – у 2016-м), тым больш, што і наш ансамбль беларускай песні існуе 30 гадоў. Мяркуем, што фэстываль адбудзецца 21 верасня. На яго мы звычайна запрашаем сябраў з беларускіх суполак Эстоніі, абавязкова – нейкі спеўны калектыў з Беларусі, а таксама прадстаўнікоў беларускай амбасады ў Таліне. Пры спрыянні кіраўніцтва павету Іда-Вірумаа мы і гэтым разам спадзяемся запрасіць кагосьці з Беларусі. А 22 верасня, на наступны дзень, мы ўсе разам прымем удзел у XVI фестывалі "Творчы кацёл нацыянальных арганізацый Іда-Вірумаа "Loomepada". Казаць штосьці больш дакладнае пра восеньскія імпрэзы сёння яшчэ рана. Працы будзе зашмат, але ж гэта – частка нашага жыцця.

**Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# "БЕЛАРУСКАМОЎНЫ": ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ ДА ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА 2019

У 2019 годзе у нашай краіне пройдзе чарговы перапіс насельніцтва, сярод пунктаў будуць пытанні (нумар 12 і 13) і пра родную мову.

Адказ мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне. Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам "беларуская" вы становіцеся паўплываеце на яе.

Беларуская мова – гэта неад'емная частка нашай культуры і гарантыя нашай будучыні як унікальнага народу. Вынікамі перапісу мы здольныя засведчыць самі сабе і ўсяму свету, што мы паўнавартасная нацыя, вартая зацікаўлення і павагі з боку іншых нацыяў свету. Падтрымаем наш нацыянальны скарб – мову нашых продкаў, якая нас усіх аб'ядноўвае і робіць унікальнымі.

Адказ "беларуская" на пытанні перапісчыкаў аб роднай мове і мове штодзённага ўжытку мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне. Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам "беларуская" вы становіцеся паўплываеце на яе.

Будзем жа памятаць пра гэта, адказваючы на пытанні перапісчыкаў! Падтрымаем наш нацыянальны скарб – мову нашых продкаў, якая нас усіх аб'ядноўвае і робіць унікальнымі.

Да кампаніі ўжо далучыліся Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", "Арт Сядзіба", платформа "Талака", крама "Symbal.by", Беларускі ПЭН-цэнтр і Асамблея НДА Беларусі.

## ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ АТРЫМАЛА ЗГОДУ МІНКУЛЬТА НА ПРАЦУ ПА СТВАРЭННІ МЕМАРЫЯЛУ ПРАВЕДНІКАЎ СВЕТУ

Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры атрымала згоду ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на працу па стварэнні мемарыяльнага знака праведнікам свету, што сталася нагодай для чацвёртай сустрэчы аргкамітэту па стварэнні знака ў Гістарычнай майстэрні Леаніда Левіна на вуліцы Сухой.

Дадзены знак павінен ушанаваць памяць тых асобаў неяўрэйскага паходжання, жыхароў Беларусі, якія ў час Другой сусветнай вайны ратавалі яўрэяў ад Халакосту. Па дадзеных ізраільскага інстытута "Яд ва-Шэм" па стане на 1 студзеня 2013 года на Беларусі налічваецца 650 асобаў, якія маюць адпаведнае званне (паводле іншых звестак, 711), але на афіцыйным узроўні памяць пра гэтых асобаў ушанаваная толькі ў выглядзе закладзенай алеі каля мемарыяла "Яма".

Паводле аўтарскай задумы Леаніда Мендалевіча Левіна, архітэктурны праект мемарыяла "Яма" ўтрымлівае ў сабе таксама і асобную частку, на якой павінны быць адзначаныя прозвішчы Праведнікаў свету з Беларусі. Але з розных прычын дадзеная задума не была выкананая і ўвасабленне сённяшняга мемарыяла няпоўнае.

На дадзенай сустрэчы прысутнічала сем сяброў розных ініцыятыў і арганізацый, у тым ліку Галіна Левіна (Архітэктурная майстэрня Леаніда Левіна), каардынатар праекта "Прыпынак Адамовіча" Андрусь Архіпенка, намеснік старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Валер Герасімаў, а таксама прадстаўнікі яўрэйскіх грамадскіх арганізацый.

Па выніках сустрэчы былі вырашаны пытанні па размеркаванню кірункаў дзейнасці і адказнасці паміж сябрамі аргкамітэту. Дзейнасць удзельнікаў аргкамітэту будзе накіраваная ў большасці на практычны аспект пытання ўсталявання помніка: удакладненне беларускай часткі спіса праведнікаў свету, камунікацыя наконт спрыяння дзяржавы праз Фонд культуры, пераклад імёнаў на беларускую мову, збор сродкаў і г.д.

На дадзеным этапе вырашаецца, якая з грамадскіх арганізацый выступіць у ролі заказчыка знака. У хуткім часе на разгляд у Манументальны



савет пры Мінгарвыканкаме будзе пададзены неабходны пачак дакументаў, і як толькі праект знака будзе ўхвалены, аргкамітэт распачне кампанію па зборы сродкаў.

**Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры**

гутарка

# Лявон Юрэвіч: “Сітуацыя з заробкамі ў бібліятэках ва ўсім свеце аднолькавая”

Гутарка з вядомым бібліёграфам, архівістам і літаратуразнаўцам Лявонам Юрэвічам, які працуе ў Публічнай бібліятэцы Нью-Ёрка.

**– Ці складана было атрымаць гэтую працу. Распавядзіце, якія былі патрабаванні ці абмежаванні (па полу, расе, поглядам)? А ўвогуле ў вас бібліятэкары могуць ствараць першасныя арганізацыі палітычных партый і рухаў у бібліятэках?**

– Праца ў гэтай бібліятэцы – мая першая і, як на сёння, адзіная ў ЗША. Прыехаў я ў Нью-Ёрк у лютым 1993 года, а ў красавіку ўжо пачаў працаваць. Трапіў фактычна выпадкова: прыйшоў знаёміцца з спадарыняй Зорай Кіпель, а праз нейкі тыдзень яна прапанавала падаць заяву на самы першасны узровень працы ў бібліятэцы – ёсць такая пазіцыя пад назовам “паж” (page). Мне хапіла на яе ведання мовы, тым болей, што паж акурат патрабаваўся ў Славянскі аддзел. Ні пра якія погляды, натуральна, не пыталіся. Дый наогул у бібліятэцы ты можаш належаць толькі да прафсаюзаў. Ніякіх палітычных “гурткоў” няма і не можа быць. Размовы пра палітыку, рэлігію і сэкс не надта ўхваляюцца на працоўным месцы: тэмы дражлівыя, датклівыя, “выбухныя”. Лепш пазбягаць іх і проста рабіць сваю працу.

**– На якія сродкі працуе бібліятэка, ці аказвае яна платныя паслугі, ці падтрымліваецца з дзяржаўнага бюджэту, ці шукае мецэнатаў альбо атрымлівае нейкія гранты? Што можаце сказаць пра матэрыяльна-тэхнічную камп’ютарную забяспечанасць.**

– Нашая бібліятэка – гэта не дзяржаўная ўстанова. Мы атрымліваем датацыі ад штата, якія маюць тэндэнцыю памяншацца, але маем і свае фонды. Таксама адмысловымі аддзеламі вядзецца праца па пошуку мецэнатаў, і вынікі бываюць ашаламляльныя. Напрыклад, Стыў Шварцман, чыім імем названы сёння галоўны будынак, з ільвамі, ахвяраваў на бібліятэку больш за 100 мільёнаў даляраў. Кіраўнікі асобных аддзелаў таксама маюць права – і карыстаюцца ім – падаваць заяўкі на гранты – менавіта на свой аддзел. Што да камп’ютарнай забяспечанасці – карыстанне кнігамі і камп’ютарамі ў нас дармовае, як і сам інтэрнэт. Каталогі, базы дадзеных, за якія плаціць сама бібліятэка, – усё ў вольным доступе. Чытач можа прыйсці з сваім камп’ютарам або ўзяць напракат ноўтбук і сядзець у будынку бібліятэкі, пакуль той адчынены.

**– Ці мяняецца неяк праца бібліятэк пры змене ўлады ў Белым доме ці ў Нью-Ёрку? Ці прызначаюцца новыя кіраўнікі бібліятэк, архіваў, музеяў пасля такіх змен? І ці ёсць цэнзура, спецсховішчы і абмежаванні ў камплектаванні фондаў бібліятэк?**




– Не, змена прэзідэнтаў ці мэраў аніяк не адбіваецца на працы бібліятэкі. Эканоміка – вось што кіруе намі. Агульная эканамічная сітуацыя ў краіне адчувальна адбіваецца на бібліятэцы. Спецсховішчаў у савецкім разуменні ў нас няма. Затое ёсць калекцыі, куды вось так проста з вуліцы не трапіш. Гэта архівы, рэдкія кнігі – чытач мусіць мець дастаткова важкія падставы, каб туды зайсці. Не раз здаралася, што наведвальнік замаўляе першавыданне толькі таму, што захацелася пачытаць кнігу. Як бы: дзе тут Біблія Гутэнберга – я мушу спраўдзіць цытату з Апакаліпсіса. Канечне, гэта недапушчальна.

**– Суадносіны электроннага і традыцыйнага (папяровага) напрамкаў працы бібліятэк. Інтэрнэт, алічбаваныя выданні ў працы супрацоўнікаў бібліятэк і чытачоў. Выкідваюцца ці захоўваюцца ў закансерваваным выглядзе традыцыйныя (картачныя) каталогі і картатэкі?**

– Натуральна, электронныя рэсурсы займаюць усё болей месца. У нас у вольным доступе больш за 800 баз дадзеных на самыя разнастайныя тэмы. І часопісы, газеты ўсё болей выкарыстоўваюцца ў электронным фармаце. Нямала кніг у электронным выглядзе таксама – іх можна чытаць і з хаты пры наяўнасці чытацкага пасведчання. Сёння каталог электронны, але на паліцах як помнік, хутчэй, стаяць тамы кніжнага каталогу, якія, у сваю чаргу, былі зробленыя праз капіяванне картак. Іх любяць разгортваць турысты і рабіць з імі здымкі.

**– А што можна сказаць пра наведнікаў бібліятэкі, хто гэтыя людзі ў асноўным. Ці магчыма абслугоўвацца на адлегласці, праз інтэрнэт?**

– О, гэта самы розны народ. І мясцовыя – даследнікі, студэнты, пенсіянеры, і тыя, хто адмыслова прылятае, прыязджае, каб скарыстаць з нашых збораў. У нас ёсць паслуга, якая называецца Ask NYPL – “спытай бібліятэку”. Пытанні могуць быць дасланыя праз e-mail, па тэлефоне – голасам ці тэкстам, або праз факс... калі вы знойдзеце яшчэ працоўны. І мы маем на іх адказваць. Пытанні размяркоўваюцца паміж аддзеламі – каму чыя дзялянка.

**– Наколькі жорстка пастаўлена дысцыпліна для супрацоўнікаў, пакаранні за спазненні, тэхналагічныя парушэнні і да т.п. Прафесійны і міжасобавы мобінг – уціск, прыніжэнні з боку адміністрацыі, калег.**

– У нас вялікі горад і адна з найстарэйшых сістэм падземкі – ад 1904 г. Натуральна, што час ад часу нешта псуецца – і тады спазненне непазбежна. Але ніякіх пакаранняў за гэта: ты або застаешся пазней, або бярэш з свайго адпачынкавага часу. Пра нейкія прыніжэнні, па-шчырасці, не чуў. У нас ёсць даволі моцны прафсаюз, ёсць аддзел кадраў, куды можна зазваніць, напісаць, калі маеш нейкія праблемы. Здаецца, найбольш распаўсюджаным было так званае sexual harassment – сэксуальныя дамаганні – за гэта было звольнена некалькі чалавек.

**– Меры ўганаравання і заахвочвання за добрыя паказчыкі працы, формы “сацыялістычнага (капіталістычнага) спаборніцтва”.**

– Ну што значыць “добрыя паказчыкі”? Ёсць праца, і ты яе мусіш выконваць, за тое і заробак атрымліваеш. Прэмій у нас няма паводле азначэння.

**– Наколькі прафесійна і сацыяльна абароненыя бібліятэкары? Якія прафсаюзы і грамадска-прафесійныя арганізацыі існуюць у бібліятэках?**

– Як троху вышэй згадаў, у нас даволі моцны прафсаюз. І звольніць некага – нават калі працаўнік таго заслугоўвае – ой як няпроста. На маіх вачах цягнулася змаганне з адной бібліятэкаркай, якая была алкагалічка, піла на працы. Спатрэбілася амаль год часу, каб кіраўнікі аддзелу пазбавіліся ад яе: усё мусіць быць задакументавана, не адзін раз напісана ў той самы аддзел кадраў – каб зрабілася відавочна, што не хвілінная злосць ці помста кіруе начальнікам. Вельмі важна, што бібліятэка дае медычнае забеспячэнне, прычым не толькі на свайго працаўніка, але і на ўсю сям’ю, за вельмі невялікія грошы.

**– Сацыяльная і грамадская прэстыжнасць бібліятэчнай працы ў ЗША... Памеры заробкаў бібліятэкараў у параўнанні з іншымі прафесіямі, у залежнасці ад навуковых ступеняў.**

– Баюся, сітуацыя і з прэстыжнасцю, і заробкамі ва ўсіх бібліятэках свету прыкладна аднолькавая. У амерыканскай бібліятэцы багата пасадаў рознага ўзроўню. Уласна “бібліятэкар” – гэта высокая пасада, ім можна стацца толькі маючы навуковую ступень у галіне бібліятэказнаўства. Ступені ў іншых галінах не дадаюць ні да пазіцыі, ні да заробку ані цэнта. Іншая рэч, што яны робяць цябе больш спецыялістам у нейкай галіне, што таксама каштоўна.

**– Найбольш буйныя кнігазборы беларусікі ў бібліятэках і прыватных кнігазборах у ЗША. Іх запатрабаванасць чытачамі.**

– Як на мяне, збор беларусікі ў нашай бібліятэцы – найлепшы і найбольшы, асабліва што датычыцца эміграцыйных выданняў: наўрад ці дзе яшчэ ў свеце ёсць аналагічны.

**Наталля Гардзіенка, “Будзьма беларусамі!”**

гонар

# Уручаныя першыя медалі да стагоддзя БНР

18 лютага ў Варшаве быў уручаны першы Мэдаль да стагоддзя БНР. За гісторыка Юрыя Туронка медаль атрымала ягоная ўдава Зінаіда Туронак.

Доктар Юры Туронак – аўтар шэрагу навуковых прац па гісторыі Беларусі першае паловы дваццатага стагоддзя. Акрамя гэтага, ён быў вядомы як адзін з лідараў беларускай меншасці ў Польшчы.

Другой узнагароджанай стала журналістка Наталля Радзіна, галоўны рэдактар анлайн-выдання “Хартыя’97”.

Старшыня Рады БНР падпісала дэкрэт аб узнагароджанні больш як 130 дзеячоў Медалём да стагоддзя БНР 24 снежня 2018 г. Юрыя Туронка не стала 2 студзеня 2019 г.

**Паводле radabnr.org**

навіны

# “КРЫВІЧЫ” САГРАВАЮЦЬ ІРКУЦК

Пачатак лютага ў гэтым годзе іркуцянам запомніцца моцнымі маразамі. Але іркуцкія беларусы лютаўскага холаду не спалохаліся. 2 лютага актывісты Іркуцкага Беларускага клуба “Крывічы” сабралі іркуцян на востраве Юнацтва, каб правесці традыцыйны беларускі абрад “Грамніцы”.

На сустрэчу зімы з летам сабралася каля 40 чалавек. Акрамя іркуцян і беларусаў былі і госці – студэнты Міжнароднага факультэта Іркуцкага дзяржаўнага ўніверсітэта з ЗША і Германіі.

Дзяўчаты па чарзе выклікалі Грамніцу – стукалі драўлянай калатушкай па жалезным кальцы. А пасля ўсе прысутныя падзяліліся на дзве каманды і пачаліся спаборніцтвы паміж “Зімой” і “Летам”. Перамога каманды “Лета” азначала б, што халады хутка адступяць, але перамагла каманда “Зіма”, таму цеплыні нам давядзецца яшчэ доўга чакаць. Спаборнічалі каманды ў традыцыйных беларускіх гульнях: “Кавенька”, “На сілкі” і “Цягалкі”.

У кавярні “Востраў”, куды затым перамясціліся госці свята, мужчыны высеклі з крэменю рытуальны агонь і запалілі ад яго галоўную грамнічную свечку. Ад галоўнай свечкі кожны пераняў полымя да сваёй і загадаў жаданне. Магічную моц свечкі ўзмацніла выкананне падчас абраду песні “Зіма з летам сустрэлася” ў выкананні Ансамбля аўтэнтычнай песні “Крывічы”.

Кожнае беларускае свята не можа абысціся без танцаў – імі і завяршыліся “Грамніцы”.

“Крывічы” зноў падарылі шмат уражанняў, і не толькі тым, хто прыйшоў на свята ўпершыню, але і сталым удзельнікам абрадаў.

**Паводле Вікторыі Канінай, г. Іркуцк**



## БЕЛАРУСКІ ПІКЕТ У МАЯМІ

16 лютага ў Маямі мітынгоўцы прайшлі маршам уздоўж знакамітай вуліцы Оўшэн Драйв. Ініцыятарам правядзення выступу Фларыдскі аддзел Беларуска-Амерыканскага аб’яднання “БАЗА”.

Падчас правядзення пікета былі закрануты тэмы прыпынення расследавання зніклых апазіцыйных палітыкаў, а менавіта Ю. Захаранкі, А. Красоўскага і В. Ганчара, а таксама неабходнасці падтрымкі рэсурсу “Хартыя-97”. Удзельнікамі былі сабраныя грашовыя сродкі, якія будуць адпраўленыя ў адрас інфармацыйнага партала “Хартыя-97”.

“Нам неабыякава палітычная будучыня і стан правоў чалавека ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь”, – выступіў дзеючы старшыня аддзела “БАЗА” Андрэй Пушкароў. “Мы заўсёды будзем памятаць нашых герояў: Віктара Ганчара, Юрыя Захаранку, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага, якія зніклі ў змаганні за праўду”.




**Паліна Прысмакова, “Беларускае Радыё Рацыя”**



## БЕЛАРУСЫ ФІЛАДЭЛЬФІІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ КАСЦЮШКІ

У Філадэльфіі, у ЗША, адбылася акцыя памяці да 273 гадавіны з Дня нараджэння вайсковага і палітычнага дзеяча Рэчы Паспалітай і ЗША, нацыянальнага героя Беларусі, ЗША, Польшчы, Літвы, а таксама ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшкі.

Беларусы Філадэльфіі ўсклалі кветкі і запалілі памінальныя свечкі каля манумента Касцюшкі ды завяршылі імпрэзу воклічам “Жыве Беларусь!”.

**“Радыё Свабода” паводле Вадзіма Васільева**

## ІРКУЦКІЯ БЕЛАРУСЫ АДСВЯТКАВАЛІ ГРАМНІЦЫ

15 лютага на вулічнай пляцоўцы Дома рамёстваў і фальклору беларусы Іркуцка ў коле аднадумцаў і аматараў народных свят адсвяткавалі Грамніцы (Стрэчанне) – дзень першай сустрэчы Зімы і Лета, свята “свечкі” і “жывога агню”. Сустрэчу арганізавала Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага.

Дзень выдаўся сонечны, і падчас правядзення абраду настрой ва ўсіх быў радасны. На душы было так лёгка і добра, што здавалася, быццам скрозь аблокі і галіны дрэў на прысутных сыходзіць блаславенне. На паляне гарадскога сквера госці свята высякалі іскру, запальвалі цяпельца і самаробныя васковыя свечкі, спявалі “вяснянкі” і песню “Блаславі, Божа”. Пасля абраду ўсе разам вадзілі карагоды, гулялі і танчылі пад гармонік.



Дзень прадказаў, што вясна будзе ранняя і дасць добры ўраджай пшаніцы. Дадому ўсе вярталіся з верай у шчаслівую долю і надзеяй на паляпшэнне дабрабыту, працяг роду, на ўсё светлае і добрае.

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага**

гутарка

# Алена Анісім пра перапіс-2019: цалкам рэальна, каб 70% назвалі роднай мовай беларускую

Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў, старшыня Таварыства беларускай мовы і сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Анісім разважае пра магчымыя вынікі перапісу 2019 года, "мяккую беларусізацыю" і арганізацыю Беларускага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча.



### Пра перапіс 2019 года

**– У верасні 2019 года ў Беларусі адбудзецца ўсеагульны перапіс насельніцтва. Многія з трывогай чакаюць яго вынікаў. Гэта звязана з фармулёўкай моўных пытанняў: цяпер пытаюцца, на якой мове чалавек навучыўся гаварыць у дзяцінстве. Дзяржаўны статыстычны камітэт грунтуецца на рэкамендацыях еўрапейскіх статыстыкаў і, такім чынам, пытанні перапісу і ў значнай ступені яго вынікі, якія наўпрост закранаюць пытанні нацыянальнай ідэнтычнасці і будучыні беларускага народа, лёсу яго мовы і культуры, вызначаюць не навукоўцы Акадэміі навук, напрыклад, а еўрапейскія і беларускія статыстыкі. Наколькі гэта правільна і карэктна?**

– У кожнай справе ёсць два бакі. Возьмем фармулёўку пытання "Родная мова (мова, засвоеная ў маленстве)". Тут я магу сказаць наступнае. Вазьміце вялікую колькасць нашых гараджан, якія, вобразна кажучы, толькі ўчора пераехалі ў горад, а дзяцей сваіх, не маючы кватэры, аддавалі сваім бацькам у вёску. Якое асяроддзе было там, якую мову чулі гэтыя малыя дзеткі ў маленстве і на якой мове яны маглі размаўляць з дзядулямі і бабулямі? Відавочна, што па-беларуску. Перапіс 1999 года адлюстроўваў крыху іншую сітуацыю, тады людзі не саромеліся называць сваёй роднай мовай беларускую. Сёння наша задача зарыентаваць людзей на тое, каб яны не забываліся, што вучыліся ў беларускіх школах. Многія нашы акадэмікі, прафесары, дактары і кандыдаты навук, чыноўнікі навучаліся менавіта ў школах з беларускай мовай навучання. Мы заклікаем іх не забывацца пра гэта. Па-другое, я лічу, што грамадзяне самі маюць права вызначаць сваю родную мову без падказак, да чаго мы іх заклікаем. Хоць нам і выстаўляюць закіды ў тым, што мы заклікаем да фальсіфікацыі. Якая фальсіфікацыя, калі чалавек альбо мае права сам вызначаць сваю родную мову, альбо не мае! Рускую мову нам навязалі, нас адлучылі ад беларускай інфармацыйнай прасторы – гэта што, не фальсіфікацыя таго стану, які павінен быць? Вядома, наша ТБМ выступае за тое, каб людзі ў Беларусі не баяліся называць сваёй роднай мовай беларускую.

**– У самім пытанні пра родную мову – "Ваша родная мова (мова, засвоеная першай у раннім дзяцінстве)" – ёсць падказка, якая выключае свабодны выбар. Ці існуюць нейкія спосабы ўздзеяння на Нацыянальны статыстычны камітэт, каб змяніць гэтыя фармулёўкі?**

– Мы спрабавалі, пісалі ў свой час лісты. Гэта было яшчэ перад перапісам 2009 года. Таму цяпер траціць на гэта час, відаць, не варта. Мы звяртаем увагу на тое, каб тыя, каго апытваюць, патрабавалі, каб перапісчыкі размаўлялі з імі па-беларуску і афармлялі адказы таксама па-беларуску. Мы ведаем, што у падрыхтаваных дакументах ёсць беларускамоўная версія. Таму тут мы можам паўплываць, каб беларуская мова прысутнічала падчас перапісу. Што тычыцца самога пытання пра родную мову з падказкай пра першую мову, засвоеную ў дзяцінстве... Калі, напрыклад, дзіця гадуецца ў сям'і, дзе адзін з бацькоў размаўляе па-беларуску, а другі – па-руску? Што адказваць у такім разе? Што дзве мовы засвоеныя ў раннім дзяцінстве? Значыць, трэба пісаць, што дзве родныя мовы? Таму, як кажуць, любая статыстыка – гэта толькі статыстыка, і яна не заўсёды адлюстроўвае рэчаіснасць.

**– А ці магчыма калі не сёлета, дык у будучыні паўплываць на Нацыянальны статыстычны камітэт, каб змяніць пытанні на наступных перапісах? Бо з вынікаў перапісу пасля робяцца далёкасяжныя палітычныя высновы.**

– Так, пэўныя высновы робяцца, але яны не заўсёды адлюстроўваюць нават вынікі перапісу. У 1999 годзе больш як 70% заявілі, што іх родная мова беларуская, але гэта ніяк не адбілася на працы дзяржаўных органаў. Так што прапановы для Нацыянальнага статыстычнага камітэту варта сфармуляваць і падаваць. Трэба спрабаваць змяніць сітуацыю.

**– Які ваш прагноз адносна вынікаў перапісу 2019 года?**

– Калі розныя палітычныя суб'екты, зацікаўленыя ў пашырэнні беларускай мовы, добра правядуць агітацыйную кампанію, то вынікі сёлетняга перапісу могуць быць амаль ідэнтычныя вынікам перапісу 1999 года.

### Пра "мяккую беларусізацыю"

**– Ці згодныя вы з тэрмінам "мяккая беларусізацыя" і са сцвярджэннямі, што ў апошнія гады назіраецца большая зацікаўленасць беларускай мовай з боку ўладаў?**

– Перш за ўсё хачу сказаць, што зрухі відавочныя ў грамадстве. Людзі не проста заяўляюць пра сваё жаданне і гатоўнасць шырэй чуць беларускую мову, але і бароняць свае правы рознымі даступнымі сродкамі, у тым ліку і праз суд. Не заўсёды яны дамагаюцца станоўчых вынікаў, але гэты працэс нарастае. А тое, што тычыцца дзяржаўных органаў, то ў іх таксама ёсць адчуванне зменаў у грамадстве, гэта па-першае. А па-другое, тыя дзяржаўныя служачыя, якія выхаваныя на беларускай зямлі і ў свой час заканчвалі беларускія школы з беларускай мовай навучання, яны разумеюць усю абсурднасць той сітуацыі, якая склалася ў нашай краіне і спрабуюць нешта змяніць у бок пашырэння беларускай мовы. Не заўсёды ім хапае смеласці адстойваць сваю пазіцыю да канца, але, тым не менш, дзе могуць, яны выказваюць і вусную падтрымку мне, і спрыяюць у рэалізацыі тых ці іншых спраў.

### Пра ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча

**– У якой стадыі цяпер знаходзіцца справа арганізацыі Беларускага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча?**

– Я з'яўляюся заснавальнікам гэтага ўніверсітэта. Як старшыня Таварыства беларускай мовы я зрабіла пэўныя намаганні, каб ён быў зарэгістраваны як юрыдычная асоба. Ну а цяпер мы працуем над атрыманнем ліцэнзіі.

**– Ёсць спадзяванне на атрыманне фінансавання, каб універсітэт запрацаваў?**

– Трэба займацца і пошукам фінансаў, і пошукам партнёраў, але цяпер самая галоўная задача – гэта дамагчыся ад міністэрства адукацыі ліцэнзіі на пачатак навучальнай дзейнасці. Гэта вельмі складана, бо, па-першае, у нас даўно не рэгістравалі новых прыватных устаноў адукацыі, таму мала экспертаў, якія могуць даць кваліфікаваныя парады адносна падрыхтаваных дакументаў. А па-другое, цяпер ва ўсім свеце, і ў Беларусі ў тым ліку, ідзе змаганне за абітурыентаў. У нас шмат дзяржаўных універсітэтаў. Яны зацікаўленыя ў тым, каб мець студэнтаў-платнікаў. З шэрагу публікацый мы бачым, якое ідзе змаганне за таленавітых выпускнікоў нашых школ у расійскіх ВНУ.

**– З вашага адказу вынікае, што пра канкрэтныя тэрміны пакуль гаварыць рана?**

– Так, пакуль не будзем называць канкрэтных дат. Спачатку падамо дакументы на ліцэнзію, а тады ўжо будзем гаварыць пра нешта канкрэтнае. Але, у кожным выпадку, ужо цяпер дзейнасць універсітэта вядзецца. Ідзе пэўная даследчая праца, ідзе навучанне людзей, якія прыйшлі на ўніверсітэцкія курсы. Таму, як кажуць, універсітэт дзейнічае. Пакуль ён мае на гэта права – ён будзе дзейнічаць, а калі атрымае ліцэнзію – дзейнасць стане яшчэ шырэйшаю.

Сяргей Абламейка, "Радыё Свабода"

навіны

# У Гайнаўцы прайшоў "Марш выклятых жаўнераў". Але і акцыя пратэсту супраць шэсця сабрала 300 чалавек




У Гайнаўцы на Падляшшы адбыўся марш памяці "выклятых жаўнераў", што праводзіцца ў Польшчы традыцыйна ў Дзень памяці антынацысцкага і антысавецкага падполля і Арміі Краёвай.

Праблема з маршам у Гайнаўцы ў тым, што ён праводзіцца ў гонар партызанскага камандзіра Рамуальда Райса "Бурага", атрад якога ў 1946–1947 гадах спрабаваў застрашыць людзей ад супрацы з камуністычнымі ўладамі і выклікаць выезд праваслаўных з Падляшша ў БССР.

Бурага і яго падначаленых вінавацяць у забойстве 79 мірных жыхароў вёсак на Падляшшы, таму ў Гайнаўцы марш выклікае законнае абурэнне.

З самага ранку ў царкве ў Гайнаўцы прайшла літургія, пазней паніхіда ў памяць бязвінна загінулых, закатаваных і спаленых аддзелам Бурага. Святар пасля паніхіды адзначыў, што Буры быў злачынцам і нельга яго лічыць і называць героем. Перад маршам мясцовыя жыхары зладзілі жалобныя акцыі ў памяць бязвінных ахвяраў.

Марш прайшоў, як і заўжды, пад лозунгам "Буры – наш герой", ад касцёла да гарадской управы і дома культуры, дзе адбылася лекцыя пра Бурага. Сёлета. Каля сабора маршу перагарадзілі шлях "Грамадзяне Польшчы" з ружамі ў руках.

Пазней у цэнтры Гайнаўкі прайшла акцыя "Вечная памяць", на якую сабралася каля 300 чалавек. Прыехалі палітыкі з партыі "Разам", польскія грамадзяне, прыйшлі жыхары Гайнаўкі. Прачыталі прозвішчы загінулых, запалілі зніччы памяці. Тамсама прайшла фотавыстава, якая выклікала вялікае зацікаўленне, асабліва ў тых, хто ўпершыню пабачыў гісторыю таго пекла, якое здзейсніў тут Буры.

**"Наша Ніва" паводле "Беларускае Радыё Рацыя"**

# МЗС пракаментавала марш нацыяналістаў у Гайнаўцы: "Гэта правакацыя"

Начальнік упраўлення інфармацыі і лічбавай дыпламатыі МЗС Анатоль Глаз напярэдадні пракаментаваў анансаваную акцыю.

"Мы ўспрымаем гэтую інфармацыю, мякка кажучы, з вялікім шкадаваннем. Асабліва на фоне нядаўняга аб'ектыўна значнага візіту ў Польшчу нашай дэлегацыі пад кіраўніцтвам старшыні Савета Рэспублікі Міхаіла Мясніковіча", – адзначыў А.Глаз.

"Бандфармаванні пад кіраўніцтвам ваеннага злачынцы Рамуальда Райса, вядомага пад псеўданімам "Буры", якога плануюць праслаўляць нацыяналісты падчас так званага маршу "выклятых салдат", у 1946 годзе зрабіла крывавы рэйд па Падляшшы, у выніку якога былі спалены пяць вёсак і забітыя 79 мірных жыхароў краю... Такіх злачынцаў нельга атаясамліваць з барацьбой за незалежнасць Польшчы, іх дзейнасць носіць рысы генацыду. Па гэтай прычыне мы выступалі і выступаем супраць гларыфікацыі і дзеля ўшанавання памяці Рамуальда Райса і яго салдат... Марш 23 лютага ў горадзе, дзе кампактна пражываюць этнічныя беларусы, у тым ліку нашчадкі тых, хто загінуў з-за "Бурага", – гэта правакацыя, накіраваная на стварэнне напружанасці, канфліктаў на нацыянальнай, рэлігійнай і гістарычнай глебе паміж беларусамі і палякамі. Выказваем надзею, што прадстаўнікі ўладаў і грамадзяне Польшчы змогуць даць падобным акцыям належную ацэнку, выступіць супраць іх правядзення і не дапусціць арганізацыі такіх мерапрыемстваў у далейшым, забараніўшы іх на заканадаўчым узроўні", – гаворыцца ў адказе МЗС.

**Паводле "Наша Ніва"**

# У Беластоку Мясніковіч сустрэўся з нацменшасцю

Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Міхаіл Мясніковіч у апошні дзень свайго чатырохдзённага візіту ў Польшчу (11–14 лютага) сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці.




Мясніковіч абяцаў падтрымку беларусам Падляшша: "Мы зацікаўлены ва ўдзеле беларусаў Падляшша ў канструктыўнай працы на карысць беларускага народа. Ваша падтрымка вельмі патрэбна. Беларуская дзяржава са свайго боку будзе дапамагаць беларусам у Польшчы ў захаванні і развіцці беларускасці, традыцый, культуры і мовы".

Падчас сустрэчы адбыўся шэраг адзначэнняў. Сярод адзначаных падзякамі і дыпломамі: старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі і сама арганізацыя БГКТ, сакратар галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч, дырэктар бельскага Дома культуры Альжбета Фіёнік, старшыня Рады Гайнаўскага павета, былы дырэктар гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко, галоўны рэдактар выдання "Праваслаўны агляд", былы дэпутат польскага Сейма Яўген Чыквін, старшыня беларускага літаб'яднання "Белавежа" Ян Чыквін, старшыня Фонда імя князя Канстанціна Астрожскага Анна Радзюкевіч, намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень.

Гайнаўскі і Бельскі ліцэі з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў падарунак атрымалі касцюмы для школьных калектываў. Падарункі, у тым ліку традыцыйныя жаночыя і мужчынскія кашулі, атрымаў Музей малой Айчыны ў Студзіводах.

Дырэктар бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк адказаў на пытанне пра тое, якім хоча бачыць супрацоўніцтва з беларускім бокам: "Мы заўсёды будзем супрацоўнічаць з беларускім бокам, калі ён будзе даваць нам напрамкі, звязаныя з развіццём беларускай мовы, культуры і беларускай адукацыі. Мы не чакаем падтрымкі матэрыяльнай, больш духоўнай. Я заўсёды кажу: калі Беларусь будзе вельмі моцна беларуская, то нам нічога больш не трэба. Проста трэба, каб яна такой была і ўсё".

Намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень адзначыў важнасць падтрымкі беларусаў Падляшша: "Голас высокага госця з-за мяжы ў абарону беларусаў, якія пражываюць на Падляшшы, вельмі-вельмі патрэбны. Зараз складаныя часы, кожны голас падтрымкі ў наш адрас – істотны. Спадзяюся, эфекты ад гэтага для нас будуць станоўчым".

"Найвялікшы для нас выклік – гэта эканамічнае супрацоўніцтва, – каментуе ўзаемадзеянне з беларускім бокам бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі. – Да граніцы 50 кіламетраў. З кім рабіць бізнес, як не са сваімі суседзямі? Нашыя фірмы чакаюць таго, каб граніца адкрылася і лягчэй стала ладзіць гаспадарчае супрацоўніцтва. Спадар Мясніковіч сустрэўся з польскімі ўладамі, можа нешта на нашым гарызонце палепшыцца".

Адным з найбольш важных пунктаў праграмы Міхаіла Мясніковіча на Падляшшы стала наведванне вёскі Залешаны ды ўшанаванне памяці ахвяр атрада Рамуальда Райса "Бурага". Сустрэча з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці прайшла ў будынку Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. У ёй прынялі ўдзел падляшскі ваявода Богдан Пашкоўскі і маршалак ваяводства Артур Касіцкі.

**Яна Запольская, "Беларускае Радыё Рацыя"**

кнігі

# УБАЧЫЛІ СВЕТ ПЕРШЫЯ КНІГІ НА ПАДЛЯШСКАЙ МОВЕ

Гэта кніга прозы Галіны Максімюк "Бельск, Кнаразы, Плёскі і іншыя вёскі" і паэтычны зборнік Зоі Сачко "Пока".

У Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку адбылася прэзентацыя кніжкі Галіны Максімюк "Бельск, Кнаразы, Плёскі і іншыя вёскі". Гэта, праўдападобна, першая кніжка прозы на падляшскай мове. Падляшскія гісторыі, ілюстраваныя працамі Алега Кабзара".

Аўтарка звыш дваццаці гадоў жыве ў Чэхіі, але ўспаміны пра сваё дзяцінства 60-70-х гадоў мінулага стагоддзя напісала на гаворцы, якой карысталіся жыхары яе роднай вёскі Кнаразы і наогул Бельшчыны. Бо, як кажа аўтарка, напісаць успамінаў не магла яна на іншай, чым родная мова. У прэзентацыі кніжкі ўдзельнічалі таксама беларускі мастак Алег Кабзар, муж аўтаркі і адначасова рэдактар кніжкі Ян Максімюк – журналіст, творца інтэрнэт-старонкі svoja.org.




Першая паэтычная кніга вершаў на падляшскай мове – зборнік вершаў аўтарства Зоі Сачко "Пока". Ён змяшчае 90 твораў паэтэсы, сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа".

"Гэта перш за ўсё мова маёй роднай вёскі – Волькі, што ў гміне Орля, – кажа Зоя Сачко, – Я ў 16 гадоў пачала пісаць. Гэта для мяне было такое адкрыццё. Ёсць людзі, якія размаўляюць толькі «па-нашаму». І ўсе справы свайго жыцця вырашаюць на сваёй мове. І гэта было асноўным натхненнем, «коб пісаті по-своёму»".

Прамоцыя кніжкі "Пока", якая з'явілася на свет намаганнямі аб'яднання Музей малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах, прайшла ў Гарадской бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім.

**Паводле Анны Шайкоўскай і Давіда Гайко, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# ІСПАНКА АНХЕЛА ЭСПІНОСА ВЫПУСЦІЛА ТРЭЦЮЮ КНІГУ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Сёлетнім лаўрэатам беларускай літаратурнай прэміі імя Міхася Стральцова стала іспанка Анхела Эспіноса. У рашэнні журы, нечаканым для многіх, гаварылася, што прэмія ёй прысуджаецца за пачуццёвае і метафарычнае багацце паэтычнай мовы і адважнае імкненне асэнсаваць таемнасць беларускага быцця.

Адмыслова да гэтай падзеі выдавецтва "Кнігазбор" выпусціла новую кнігу Анхелы Эспіносы "Колер крылаў". І гэта ўжо трэцяя ейная беларуская папяровая кніга. Да яе былі зборнікі паэзіі "Раяль ля мора" (2015) і Pomme de ciel (2017). Яшчэ ў анлайн-бібліятэцы "Камунікат" выйшаў электронны зборнік "Памяць пра будучыню", а на радзіме ў ейным перакладзе – двухмоўная кніга Максіма Багдановіча "Згукі маёй бацькаўшчыны" (Ecos de mi tierra, 2017). У 2016-м яе прынялі ў ганаровыя сябры Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

Анхела кажа, што пачала пісаць гэтыя вершы дзеля моўнай практыкі. Сама сябе яна называе паліглоткай-аматаркай, любіць вывучаць мовы, і вершы заўжды імкнецца пісаць на кожнай. Але беларуская яе зачаравала найболей, хоць да 15 гадоў Анхела нават не ведала пра яе існаванне.

У 2008 годзе яна атрымала стыпендыю для "маладых дыпламатаў" ад дзяржддэпартаменту ЗША. Паехала вучыцца. Анхела была адзінай іспанкай у той праграме. І там у яе з'явілася шмат сяброў са славянскіх краін, у тым ліку і з Беларусі. Пераважна яны былі рускамоўныя, але вельмі любілі культуру радзімы. Пазнаёмілі яе з музыкай, літаратурай, палітыкай Беларусі. Мова была пазней.

Пасля выбараў 2010 года яна напісала артыкул, які апублікавала газета ейнага роднага горада Малагі. Артыкул вельмі эмацыйны, бо на Плошчы-2010 было шмат ейных сяброў па амерыканскай адукацыйнай праграме. Адна сяброўка прымусіла яе адправіць тэкст на міжнародны конкурс "Беларусь у фокусе", на якім Анхела перамагла. Лаўрэатку запрасілі ў Варшаву, дзе яна пазнаёмілася з беларускамоўнымі журналістамі і культурнымі дзеячамі. Там і з'явілася любоў да мовы – з першага погляду.



"Спачатку я шмат літаратуры чытала, са слоўнікам. Разумела мала. Але было жаданне чытаць беларускую літаратуру ў арыгінале, бо ведала, што ёсць вельмі якасныя творы.

Потым пачала пісаць беларускамоўны блог, там выйшлі і першыя вершы. Іх заўважылі, з аднаго боку, Алесь Плотка, дзякуючы якому яны былі ўпершыню надрукаваныя, а з іншага боку – Алесь Мазанік і Глеб Лабадзенка. Яны паказалі мае вершы Рыгору Барадуліну, маю песню з яго тэкстам (я напісала музыку на верш "Трэба дома бываць часцей") і блог. І ён гэта, кажуць, упадабаў, сказаў, што мне варта працягваць сваю дзейнасць (маю ягоную кніжку з подпісам з пачатку 2014 года, я яе дужа цаню). Дык адтуль часткова і матывацыя не здавацца, хоць часта думкі былі кінуць паэзію".

У Варшаўскім універсітэце Анхела скончыла магістарскую праграму па беларусістыцы і абараніла працу "Мастацкі свет паэзіі Міхася Стральцова".

Цяпер яна вучыцца ў аспірантуры Мадрыдскага ўніверсітэта, піша дысертацыю "Сімвалы фальклорнага паходжання ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера" (севільскі паэт-рамантык 19 стагоддзя).

На цырымоніі ўганаравання Анхелы Эспіносы прэміяй Міхася Стральцова паэт Уладзімір Някляеў сказаў, што паэтка з Іспаніі так дасканала гаворыць па-беларуску, што нават ніводнага націску не блытае. А ў багатай мове Анхеліных вершаў свеціцца цеплыня ейнай прыгожай радзімы. Пачытайце "Колер крылаў", каб упэўніцца ў надзвычайным таленце 26-гадовай іспанкі, якую прычаравала Беларусь.

**ВА, "Радыё Свабода"**

кніга

# СВЕЖЫЯ "ЗАПІСЫ": "ФАЛЬШАВАННЕ КУПАЛЫ", ЛУДАМАНІЯ НА ЭМІГРАЦЫІ І ВЯЛІКАЛІТОЎСКАЕ (БЕЛАРУСКАЕ) ХАРЧАВАННЕ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Пабачыў свет новы выпуск альманаха "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва".

Пачынаецца выпуск з раней не друкаваных успамінаў ўдзельніка Першага Усебеларускага кангрэсу 1917 г., які пасля Другой сусветнай вайны апынуўся на Захадзе, Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага, 1890–1972) "Чутае. Бачанае. Перажытае". Мемуары пра дзяцінства на роднай Лагойшчыне, Першую сусветную і міжваеннае жыццё ў савецкай Беларусі, настаўніцкую працу і уцёкі ад рэпрэсій, Другую сусветную і выезд у Нямеччыну. Гэтая публікацыя – і адзначэнне 100-годдзя БНР, і даніна павагі і любові нядаўна адышоўшаму сябру, колішняму рэдактару "Запісаў" мовазнаўцу Зьмітру Саўку, які рыхтаваў тэкст да друку, рэдагаваў яго.

Асноўная ж тэма сёлетняга альманаху – "Амерыканская гісторыя" – прадстаўленая тэкстамі пра розныя аспекты беларускай прысутнасці ў ЗША, я якіх можнаі даведацца, што пісалі пра суродзічаў у Амерыцы перыёдыкі 1920-х або пра што лісталіся першыя свядомыя беларусы ў Чыкага Янка Чарапук і Язэп Варонка з лідарамі БНР у 1923 г. У раздзеле "Архівалії" падаюцца спісы святароў і парафіянаў беларускай царквы Св. Юр'я, што дзейнічала ў паваенным Чыкага, а таксама лісты грамадскага дзеяча Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка пра беларускія асяродкі ў Нью-Джэрсі і Ілінойсе.

Пра Купалу і ягоную творчасць спрачаліся не толькі ў метраполіі – зірніце нарыс пра дыскусію, што выбухнула ў колах паваеннай эміграцыі ў сувязі з выданнем зборніка "Спадчына" (Мюхэн, 1955), і артыкул Янкі Ліманоўскага "Фальшаваньне Купалы", што быў надрукаваны ў яе рэчышчы.

"Амерыканскія" "Запісы" прапануюць таксама аўтабіяграфічныя згадкі замежных суродзічаў. Прыкладам, ва ўспамінах грамадскага дзеяча і выдаўца беларускага часопісу ў нью-джэрсійскім Саўт-Рыверы Жоржа Наумчыка вы прачытаеце не толькі пра ягоны пакручасты "шлях на Захад", але і, прыкладам, як герой вельмі любіў казіно і трапіў у гульнявую залежнасць.

Гісторыі амерыканскіх беларусаў прадстаўленыя і ўспамінамі ўдавы грамадскага дзеяча і выдаўца, пляменніка Якуба Коласа Міколы Прускага (1928–2014) – Веры Прускай, а таксама мемуарнымі каментарамі Вітаўта Кіпеля да гісторыі беларускага скаўтынгу і асабістых кантактаў з Васілём Быкавым.

Аматараў ліставання можа зацікавіць падборка лістоў грамадскага дзеяча Уладзімера Бакуновіча да ягонага сябры Янкі Запрудніка, дзе распавядаецца пра беларускае студэнцкае жыццё ў Лювене, сямейныя і грамадскія падзеі ў Нью-Джэрсі, Мічыгане.

У новай рубрыцы "Людзі кнігі" публікуюцца даследчыя тэксты эміграцыйных аўтараў дзеля іх пераасэнсавання і ўвядзення ў больш шырокі навуковы ўжытак. Асноўныя сёлетнія аўтары гэтай рубрыкі таксама амерыканскія беларусы. Чытачам прапануюцца даследаванні, прысвечаныя ранняй беларускай гісторыі, Часлава Будзькі і Леаніда Галяка, разам з каментарамі і рэфлексіямі сучаснага айчыннага гісторыка Сяргея Емяльянава. Таксама ў раздзеле пададзены беларускі пераклад прадмовы Зоры Кіпель да англамоўнай публікацыі "Беларускага Трышчана" (New York – London, 1988) і рэферат пра гісторыю Свіслацкай гімназіі, зроблены чыкагскім беларусам Вацлавам Пануцэвічам.

У працяг амерыканскай тэмы і лістоў Янкі Чарапука і Язэпа Варонкі ў раздзеле "Архіў" пададзенае апісанне дакументаў гэтых дзеячаў, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску.

У раздзеле "Установы" архівістам Лявонам Юрэвічам аднаўляецца гісторыя заснавання вядомай навуковай арганізацыі беларускай паваеннай эміграцыі – Крывіцкага (Беларускага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны, ініцыяванага некалі Янкам Станкевічам. Не менш увагі надаецца і сучаснасці – Беларуска-Амерыканскаму задзіночанню, якому прысвечаны тэкст Віталя Зайкі і інтэрв'ю колішняй старшыньі арганізацыі Ганны Сурмач.

Сёлетнія "Запісы" дапамогуць зразумець што елі, чым харчаваліся беларусы на эміграцыі. Тут змешчаная адмысловая гутарка Наталлі Гардзіенкі з дзвюма амерыканскімі беларускамі Лізай Літаровіч і Надзеяй Запруднік пра асаблівасці нацыянальных страваў на эміграцыі. А пры канцы сёлетняга альманаху ў раздзеле "Кніга ў «Запісах»" перадрукоўваецца адзіная кніга беларускіх кулінарных рэцэптаў, якая выйшла на эміграцыі (Нью-Ёрк, 1959) – "Вялікалітоўская (Беларуская) кухарка" Марыі Станкевіч.

Разнастайная ў сёлетніх "Запісах" і рубрыка "Публікацыі", дзе можна знайсці і тэкст прафесара Ірыны Чыкалавай, прысвечаны амерыканісту з Беларусі Ісааку Гурвічу (1860–1924), і артыкул Лявона Юрэвіча пра жанр эпітафіяў у эміграцыйнай літаратуры, і высвятленне гісторыкам з Клецку Андрэем Блінцом дакладнага месца нараджэння прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага.

Гэта не поўны пералік таго, што прапануюць чытачам чарговыя "Запісы". Тут і новыя тэксты да будучай кнігі выбранага Макара Краўцова, і анатацыя да рыхтаванага альбомадаведніка "Беларускія могілкі ў свеце", і "ўгодкавыя тэксты" да юбілеяў мовазнаўцаў Фёдара Янкоўскага ды Алены Юрэвіч, а таксама да гадавіны аднаўлення БАПЦ на эміграцыі. Ёсць і тэксты пра Янку Геніюша, Кастуся Езавітава, беларусаў Канады, багатая "Кніжная паліца", дзе змешчаныя агляды і рэцэнзіі эміграцыязнаўчых выданняў апошніх гадоў.

На 800 старонках новага выпуску альманаха "Запісы БІНіМ" кожны чытач знойдзе нешта цікавае.

**Рэдакцыя "Запісаў"**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2019 года

3 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1944-м, забіты Францішак Аляхновіч, драматург.

4 сакавіка – 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

6 сакавіка – 20 гадоў таму, у 1999-м, памёр Міхаіл Петрыкевіч, краязнавец, музеязнавец, педагог.

8 сакавіка – 90 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Факунда Несцяровіч, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне.

8 сакавіка – 30 гадоў таму, у 1989-м, памёр Мікола Ягаўдзік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

10 сакавіка – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Уладзімір Пігулеўскі, грамадскі дзеяч, пісьменнік.

11 сакавіка – 180 гадоў таму, у 1839-м, расстраляны Шыман Канарскі, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., дзеяч вызваленчага руху.

12 сакавіка – 190 гадоў таму, у 1829-м, нарадзіўся Отан Грабніцкі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

12 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Уладзімір Клішэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

13 сакавіка – 30 гадоў таму, у 1989-м, памёр Іван Касяк, грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

15 сакавіка – 25 гадоў таму, у 1994-м, у Мінску на сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

18 сакавіка – 125 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Альбін Стаповіч, грамадска-культурны дзеяч кампазітар, публіцыст.

19 сакавіка – 45 гадоў таму, у 1974-м, памёр Эдуард Сташкевіч, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргонях у 1949–1950 гг.

22 сакавіка – 155 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання.

24 сакавіка – 225 гадоў таму, у 1794-м, пачалося вызваленчае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 15 гадоў таму, у 2004-м, памерла Валянціна Пашкевіч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

26 сакавіка – 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

27 сакавіка – 120 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Аляксей Васіленя, грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

27 сакавіка – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Валерый Маракоў, паэт.

27 сакавіка – 40 гадоў таму, у 1979-м, памёр Рыгор Крушына (Казак), пісьменнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

31 сакавіка – 50 гадоў таму, у 1969-м, памёр Мікола Шчаглоў (на эміграцыі Куліковіч), кампазітар, музычны і тэатральны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

in memoriam

## ПАМЁР НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ, УРАДЖЭНЕЦ ВІЦЕБСКА, ЖАРЭС АЛФЁРАЎ

Акадэмік Жарэс Іванавіч Алфёраў, выбітны фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі памёр 2 сакавіка на 89 годзе жыцця.

Алфёраў атрымаў Нобелеўскую прэмію па фізіцы ў 2000 годзе за распрацоўку паўправадніковых гетэраструктур і стварэнне хуткіх опта- і мікраэлектронных кампанентаў. Яго даследаванні адыгралі вялікую ролю ў інфарматыцы.

Нарадзіўся ў Віцебску ў 1930 годзе. Скончыў з залатым медалём сярэднюю школу № 42 ў Мінску, Ленінградскі электратэхнічны інстытут.

Працаваў у Фізіка-тэхнічным інстытуце імя А. Ф. Іофэ (з 1987 да мая 2003 года быў дырэктарам). Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1961), доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Акадэмік АН СССР (1979), потым РАН. У 1990–1991 гадах – віцэ-прэзідэнт АН СССР, старшыня Прэзідыуму Ленінградскага навуковага цэнтра. З 2003 года – старшыня Навукова-адукацыйнага комплекса "Санкт-Пецярбургскі фізіка-тэхнічны навукова-адукацыйны цэнтр" РАН.



Імя Жарэса Алфёрава носіць гімназія № 42 у Мінску.

**"Наша Ніва"**

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (201), люты 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27